ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Кніга Ноша
№ 49
красавік, 2018

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**АЎТОГРАФ**

## Уладзімір МАРОЗ:
# «Суладдзе вершаў і малюнкаў...»



**– Шаноўны Уладзімір Вікенцьевіч, Вы напісалі сцэнарыі да больш чым 80-ці дакументальных стужак, прысвечаных гісторыі і культуры Беларусі. Дзе можна пабачыць іх?**

– Першы дакументальны фільм па маім сцэнары быў зняты ў 1984 годзе. З таго часу за трыццаць тры гады і назбіралася такая колькасць стужак. Думаю, найперш гэта вынік маёй любові да дакументальнага кіно і да гісторыі нашага краю. Ды і пэўны збег спрыяльных абставінаў меў, несумненна, месца. Дарэчы, нізка «Пяшчотны дотык» у калектыўным зборніку «Крыло» (Першая кніга паэта) выйшла ў тым жа годзе. Так і ідуць адтуль поруч літаратура і кіно, што не падасца такім ужо дзіўным, калі адзначыць, што я нарадзіўся пад знакам Блізнюкоў.

Пытанне, дзе можна ўбачыць нашы стужкі, абавязкова задавалася, калі я на творчых імпрэзах згадваў сваю працу ў дакументальным кіно і знятыя фільмы. Але працяглы час уцямнага адказу на гэтае быццам бы нескладанае пытанне я не знаходзіў. Кінастудыя не мела ліцэнзіі на гандаль ураздроб, да таго ж усе фільмы, створаныя ў 90-я гады мінулага стагоддзя, былі знятыя на кінаплёнку, і шмат карцін дагэтуль не пераведзена на лічбу. Са з'яўленнем тэлеканала «Беларусь 3» нашы дакументальныя фільмы паказваліся там шырока. Цяпер не так, але хоць бы аднойчы зробленае на студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» можна ўбачыць і на тэлеэкране.

Але ж ёсць сеціва! Спецыяльна глянуў, што можна знайсці там з маіх стужак як аўтара сцэнарыя. І наўздзіў (бо кінастудыя пакуль на YouTube не вывешвае) знайшоў 9 фільмаў, знятых цягам апошняга дзесяцігоддзя: «Чернобыльский крест», «Міфалагемы Родзіна», «Беларусь. 4 гады вайны», «Іван Мележ. Туманы над багнаю», «Косава. Маленькі горад з вялікай гісторыяй», «Свет Караткевіча», «Знакі лёсу. Віктар Казько», «У пошуках новай зямлі», «Старажытнае слова. Лёс Міхала Баброўскага». З прыемнасцю ўбачыў, што фільм пра Мележа мае амаль 2,4 тысячы праглядаў, фільмы пра Коласа і Караткевіча – па 1,7 тысячы праглядаў.

*(Працяг на стар. 7)*

### Даведка «Кніганошы»:

**Уладзімір Мароз – паэт, празаік, эсэіст, сцэнарыст, кінарэжысёр. Аўтар кніг паэзіі «Пяшчотны дотык. Крыло» (1984), «Голас» (1993), «Рэй» (1993), «Дабрадаць» (2006), «Шляхцянка-восень» (2012), «Крыжы на ростанях» (2014), кніг эсэ «Мінск старадаўні і малады» (2002), «Беларускі храм» (2003) і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў горадзе Косава на Брэстчыне. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Дамашэвіч Уладзімір. Выбраныя творы. Уклад. Генрыха Далідовіча; прадм. Валянціны Локун. – Мінск: Беларуская навука, 2018. – 620 с.: [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя I, Мастацкая літаратура).**

У кнігу вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Дамашэвіча (1928–2014) увайшлі яго найлепшыя апавяданні, аповесць пра трагічныя падзеі Другой сусветнай вайны «Між двух агнёў», раман «Камень з гары», які 20 гадоў быў пад забаронай, і найбольш значнае з публіцыстыкі.




**Кеда Альжбета. Шчонаўскія абразкі: кніга прозы. – Гродна: ЮрсаПрынт, 2017. – 260 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 92).**

Кніга Альжбеты Кеды (Алы Петрушкевіч), гарадзенскай пісьменніцы, кандыдата філалогіі, – гэта не проста аповед пра гісторыю яе роднае вёскі Шчонава, што на Карэліччыне. Гэта сапраўды непрыдуманая проза пра даўняе і не вельмі далёкае мінулае жыццё людзей, вартае памяці. Аўтарка сабрала яго аскепкі, каб не страцілася, з верай, што напісанае застанецца. Адрасавана найперш тым, каго цікавіць жыццё ў беларускіх вёсках.




**Глобус Адам. Казкі сталічныя: Парыж-Вільня-Мінск-Віцебск. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 160 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 104).**

Новая кніга Адама Глобуса складзена з казак, напісаных у розных сталічных гарадах. Дзіўныя падзеі адбываюцца ў Парыжы, Вільні і Мінску. Пісьменніку пашанцавала, і ён змог пажыць і папрацаваць у гэтых цудоўных сталіцах. У дадатку Глобус змясціў казкі пра мастакоў віцебскай школы і неверагодныя гісторыі пра іх таленавітыя творы. Кніга выдадзена ў якасці ўзнагароды за трэцяе месца ў літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца ў 2017 годзе.




**Папковіч Уладзімір. Зазімак: выбраныя вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 156 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 105).**

Жыццё і смерць.  
Дабро і зло.  
Каханне.  
Здрада.  
Шчасце.  
Доля.  
Вось што для мастака было  
Ва ўсе часы душэўным болем.

Гэтыя немудрагелістыя будзённыя словы можна лічыць галоўнай тэматыкай кніжкі вершаў Уладзіміра Папковіча «Зазімак». Тэмы традыцыйныя і для літаратуры, і для мастацкай творчасці ўвогуле. Варта дадаць толькі, што да ўвасаблення гэтых сур'ёзных тэмаў Уладзімір Папковіч часта падыходзіць з доляй гумару і самаіроніі.




**Шаматульский Сергей. Они: рассказы. – Минск: Кнігазбор, 2017. – 60 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Яны – гэта мужчыны і жанчыны, сталыя і дзеці, якія жылі калісьці і што жывуць цяпер; яны заўсёды побач з намі, яны – у нас, яны – гэта мы. Чытайце, плачце і смейцеся – аўтар гэтых апавяданняў умее рабіць так, каб гарката, боль і смех вылечвалі.




**Филенко Вера. Переведи меня: рассказы. – Минск: Кнігазбор, 2017. – 60 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Апавяданні Веры зманліва класічныя, але, як совы – не тое, чым здаюцца. Пры ўсёй стылістычнай маляўнічасці і сакавітасці калорыяў у іх – як у бутафорскіх яблыках і грушах з пап'е-машэ: замест сытасці чытач адчуе пякучы, звярыны голад па даўно забытым, не пражытым да канца і як быццам зніклым. Але нічога нікуды не знікла, дарагі чытач, жыві цяпер з гэтым. (Таццяна Заміроўская)




**Наркевіч Стася. Дзіўныя здарэнні на неверагоднай планеце: казка-размалёўка. Мастачка Алена Сянько. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 24 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 22).**

Казка будзе захапляльным чытвом пра прыгоды маленькай дзяўчынкі Волькі на чароўнай планеце і цікавай забаўкай-маляванкай.




**Васючэнка Пятро. Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. Ілюстрацыі К. Баранавай. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 104 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 23).**

Ці чулі вы пра паноў Кубліцкага ды Заблоцкага? Яны праелі, прагулялі ўсю сваю гаспадарку, а пасля сеялі рэпу, змагаліся з Цмокам паганым ды траплялі ў іншыя гісторыі. Пра іх апавядаў аўтар гэтай кнігі ў дзвюх папярэдніх казачных аповесцях – «Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» і «Гаспадарка паноў Кубліцкага ды Заблоцкага». Цяпер – працяг дзівосных панскіх авантураў, дзе поўна неспадзяванак, гумару, вясёлых парадоксаў.




**Палац: літаратурны альманах. Гомель. №5, 2017. Укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 280 с.**

Пяты нумар літаратурнага альманаха Гомельскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Палац» знаёміць з паэзіяй, прозай, успамінамі літаратараў гомельшчыны. Артыкулы па гісторыі Гомельшчыны прапануюць Мікола Анісавец, Мікола Ермакоў, Сяргей Балахонаў, Анатоль Астапенка, Уладзімір Лякін. З літаратуразнаўчымі доследамі друкуюцца Васіль Шур, Людміла Дземідзенка і Вольга Шынкарэнка. Рубрыка «Пабрацімства» змяшчае вершы дзвюх чарнігаўскіх паэтак у арыгінале – паўкраінску.




**Жырандоля: літаратурны альманах. Брэст. № 9, 2017. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 278 с.**

Дзявяты выпуск альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» складаюць творы розных жанраў і тэматыкі не толькі сяброў суполкі, але і маладых аўтараў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі вобласці. У раздзеле «Лінгвакраязнаўства» змешчаныя доследы Лены Леванцэвіч «Анамастыкон вёскі Здзітава Бярозаўскага раёна» і Ганны Карпук «Творца моўных дыяментаў. Афарызмы з вершаў Ніны Мацяш».




**Сцебурака Усевалад. Сны дарог: вершы. – Мінск: Медысонт, 2017. – 64 с.**

Густоўна выдадзены і невялікі аб'ёмам, гэта трэці зборнік вершаў Усевалада Сцебуракі. Зборнік мае два раздзелы – «Вуліцы сталіцы» і «Сцяжыны правінцыі». Пейзажныя замалёўкі суседнічаюць з творамі іранічнай скіраванасці. Асобнае важкае месца займаюць патрыятычныя вершы. Скрозь увесь зборнік праходзіць тэма любові – да жанчыны, да сяброў, да роднага краю. Кніга мае прысвячэнне: «Родным па духу і крыві».




**Мароз Уладзімір. Графічная кніга паэта: вершы, кампазіцыі. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 200 с.**

У «Графічнай кнізе паэта» пад адной вокладкай сабраныя вершы і графічныя кампазіцыі аўтара, архітэктара па першай адукацыі. Гэтае своеасаблівае выданне сведчыць аб тым, што ў жыцці і творчасці нічога не бывае выпадковым, што мастацкая адукацыя аніяк не можа знікнуць бясследна, у пэўнай ступені яна дадае адценні творчай палітры пісьменніка. І паэтычныя радкі, і графічныя лініі ў кнізе суіснуюць у суладдзі, кожная мастацкая сутнасць па-свойму выяўляе грані творчай асобы Уладзіміра Мароза ў медытатыўнай, настраёвай плыні.




**Пінчук Яніна. Фарбы душы. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 84 с.**

Паэзія Яніны Пінчук – лёгкая, паветраная, летуценная, поўная яркіх фарбаў, прыемных водараў і квяцістых вобразаў. Аўтарка бачыць свет вачыма мастака, малюючы пейзажы не толькі любых ёй гарадоў, але і сваёй душы: «Вось гэта – рамантыкі бэз, / А гэта – шыпшына самоты, / А там вунь – кахання ружа, / А побач – лілея цноты...». «Фарбы душы» – першая кніга паэзіі Яніны Пінчук, ужо вядомай чытачу па кнізе прозы «Горад мрой» (2016).




**Мудроў Вінцэсь. Помнік літары «Ў»: навелы і апавяданні. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 246 с.**

У новую кнігу вядомага беларускага пісьменніка, сапраўднага майстра «кароткай прозы» Вінцэся Мудрова ўвайшлі навелы і апавяданні, напісаныя цягам апошніх дзесяці гадоў. Сярод іх асаблівым чынам выдзяляецца навела «Албанскае танга», якая распавядае пра абставіны разрыву савецка-албанскіх адносінаў паўстагоддзя назад. У творы выразна прасочваюцца дзве сюжэтныя лініі – непасрэдны канфлікт паміж Мікітам Хрушчовым і Энверам Ходжа, а таксама гісторыя кахання беларускай дзяўчыны і албанскага студэнта.




**Упала Анка. На заснежаны востраў: раман. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 220 с.**

Сёння свет – маленькі і крохкі. Тое, што адбываецца на іншым кантыненце, адбываецца на адлегласці выцягнутай рукі, адбываецца з табой. Мы ўсе жывём разам, дыхаем адным паветрам, п'ём адну ваду. Ніхто не чужы, ніхто не іншы настолькі, каб быць бясконца далёкім. У пэўным сэнсе іншасць – гэта ілюзія. У аўтабіяграфічнай кнізе пра час, пражыты ў Швецыі, пісьменніца апісвае рэальных людзей і рэальныя падзеі. Зменены толькі імёны і некаторыя тапонімы. «Я не магла дазволіць сабе бавіцца выдумкай, бо знаходжу гэтую гісторыю занадта важнай, большай за мяне, большай за нас, – кажа аўтар. – Няхай тыя, хто пажадае, пражывуць яе разам са мной».




**Казімір Малевіч для дзяцей. Л. Вольскі, А. Глобус, А. Хадановіч. – Вільня: Логвінаў, 2017. – 112 с.**

Кніга «Казімір Малевіч для дзяцей» створана, каб пазнаёміць чытачоў з творчасцю знакамітага мастака. Падыходзіць яна і для сямейнага чытання. У кнізе змешчаныя карціны Казіміра Малевіча, цікавыя факты з жыцця майстра, а таксама казкі, вершы, песні і гульні паводле матываў яго творчасці.




**Табукі Антоніа. Сны сноў. Пер. з італ. Вольгі Колас. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 90 с.**

Вядомы італьянскі пісьменнік Антоніа Табукі (1943–2012) уявіў сны сваіх улюбёных празаікаў і паэтаў, мастакоў і музыкаў. Цікавае падарожжа ў снах па каляровых краявідах розных стагоддзяў і краінаў перадаецца праз дваццаць займальных аповедаў. Мы апынаемся ў Рыме з Авідыем, у Рыбатэжу з Фернанду Песоа, у Гранадзе з Федэрыка Гарсія Лоркам, у Вене з Зігмундам Фройдам, у Пізе з Джакама Леапардзі, у французскіх Ардэнах з Арцюрам Рэмбо, у маскоўскім метро з Уладзімірам Маякоўскім ці плывем з Робертам Луісам Стывенсанам на невядомы востраў…




**Букоўскі Чарльз. Святло, і паветра, і месца, і час: вершы. – Мінск: Харвест, 2017. – 128 с.**

Чарльз Букоўскі – культавы амерыканскі пісьменнік XX стагоддзя, аўтар больш чым 40 кніг, сярод якіх раманы, эсэ, апавяданні, вершы. На працягу ўсяго жыцця галоўнымі аб'ектамі творчасці пісьменніка былі класічная музыка, адзінота, алкагалізм, улюбёныя аўтары, сцэны з уласнага цяжкага дзяцінства, пісьменніцтва, натхненне, вар'яцтва, жанчыны, сэкс, каханне і скокі. Гэтая кніга вершаў Букоўскі таксама шмат у чым аўтабіяграфічная. І хоць манера пісьма паэта можа шакаваць натуралізмам, здацца цынічнай і грубай, улічваючы выкарыстанне ім нецэнзурнай лексікі, яго тэксты ўтойваюць лёгка ранімага, тонкага, разумнага лірыка, не пазбаўленага своеасаблівай сентыментальнасці.




**Сітніца Рыгор. Ток: кніга паэзіі. – Мінск: Чатыры чвэрці, 2018. – 232 с.: іл.**

Упершыню пад адной вокладкай сабраны вершы мастака і паэта – плён шматгадовай літаратурнай творчасці. Многія з іх ужо вядомы прыхільнікам па публікацыях у калектыўных зборніках і перыядычным друку, а таксама з публічных выступленняў аўтара. Калісьці Рыгор Барадулін сказаў: «У вершах Рыгора Сітніцы – раскутасць і ашчаднасць, аратайнасць і панавітасць, апантанасць і раздумнасць, прыпар шчодрадайнасці й прысмерк смутку, баляванне гуку і раскоша майстэрства».



**Спрынчан Аксана. Кава з украінскім мёдам: паэзія. Пераклад з беларускай мовы Міколы Мартынюка. – Луцк ПВД «Твердиня», 2017. – 212 с.**

Гэта першая паэтычная кніга Аксаны Спрынчан, перакладзеная на мову ейных продкаў па мячы. У адметным сусвеце, створаным паэткай, знітоўваюцца летуценне і драматычная калізія, пачуццёвасць і інтэлектуальнасць, традыцыя і эксперымент. Асацыятыўна-філасофская паэзія аўтаркі для тых, каму каханне не замінае думаць, а думанне – кахаць. Можна нават перафразаваць: напачатку для таго, каму каханне не замінае перакладаць, а перакладанне – кахаць. У Міколы Мартынюка акурат атрымалася суладзіць украінскі сусвет перакладаў з беларускім сусветам арыгіналаў.




**Пэро Шарль. Чарадзейныя казкі. Пераклад з франц. Зміцера Коласа; маст. Яўгенія Цыбульская. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 132 с.: іл.**

Славутыя на ўвесь свет чарадзейныя казкі Шарля Пэро (1628–1703), часцей вядомыя па спрошчаных пераказах, у гэтай кнізе прапануюцца ў поўным перакладзе арыгінальнага тэксту. Адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту, а вершаваныя маралі ў канцы кожнай казкі могуць быць цікавыя і дарослым.




**Янсан Тувэ. Капялюш чарадзея. Пер. з швед. Алесі Башарымавай; ілюстрацыі Тувэ Янсан. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 168 с.: іл.**

Казачная аповесць «Мемуары мумітаты» – пятая з серыі кніг, прысвечаных мумітролям, чароўным і забаўным істотам, прыдуманым, апісаным і намаляваным выдатнай фінскай пісьменніцай і мастачкай Тувэ Янсан (1914–2001). Адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту, а таксама ўсім аматарам і заўзятарам мумітроляў.




**Ейтс Уільям Батлер. Выбраныя вершы. Пер. з англійскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 104 с. (Паэты планеты).**

Уільям Батлер Ейтс (1865–1939) – ірландскі паэт, драматург і візіянер, адзін з найбольш вядомых англамоўных творцаў XX стагоддзя, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1923 г. Яго вершы злучаюць неарамантычныя традыцыі са складанай мовай мадэрнісцкай паэзіі, матывы кельцкай міфалогіі з фактамі ўласнай біяграфіі і гісторыі Ірландыі.




**Тракль Геарг. Выбранае. Пер. з нямецкай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 84 с. (Паэты планеты).**

Геарг Тракль (1887–1914) – адзін з самых яркіх паэтаў, прадстаўнікоў аўстрыйскага экспрэсіянізму, як называюць неспакойнае, экстатычнае, творчае дзесяцігоддзе ў літаратуры паміж 1910 і 1920 гадамі з яго эксперыментамі і парываннямі, гукавай і колернай гарманічнасцю, меланхалічнасцю.




**Чернякевич Андрей. БНР. Триумф побежденных. – Минск: А.Н. Янушкевич, 2018. – 302 с., [24] л. ил.**

Спрэчкі пра тое, ці можна Беларускую Народную Рэспубліку разглядаць у якасці рэальнай дзяржавы з усімі яе класічнымі атрыбутамі, не згасаюць дагэтуль. БНР прайграла барацьбу за ўладу і існаванне, не паспела замацавацца на палітычнай карце Усходняй Еўропы. Нягледзячы на гэта, яна стала надзвычай важным, шмат у чым вырашальным этапам у развіцці беларускага нацыянальнага руху і заклала асновы беларускай дзяржаўнасці ў ХХ стагодзі. Поўны драматызму і супярэчнасцяў гістарычны шлях БНР скрупулёзна ўзноўлены ў гэтай кнізе як на аснове ўжо вядомых дакументаў, гэтак і з выкарыстаннем новых крыніцаў з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтвы, Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва, Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі.




**Сяргей Шупа. Падарожжа ў БНР. Архіўны раман. (Бібліятэка Свабоды. ХХІ стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. 282 с. + 56 с. укладка: іл.**

Кніга «Падарожжа ў БНР» уяўляе сабой дасціпны і ўпарадкаваны паказ у гістарычным кантэксце арыгінальных дакументаў і матэрыялаў, якія захоўваюцца ў фондах БНР у архівах Мінска і Вільні. Яна занадта маляўнічая, каб быць гістарычнай манаграфіяй, і занадта стрыманая ў аўтаравай фантазіі, каб быць літаратурным творам, адсюль і жанр – «архіўны раман». На яе старонках у трох сотнях кароткіх фрагментаў апісваецца ўзнікненне цуду, які адбыўся 100 гадоў таму, – незалежнай Беларусі.




**Івонка Сурвіла. Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск. (Бібліятэка Свабоды. ХХІ стагодзьдзе.) 2-е выд,. дап. – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. – 174 с.: іл.**

Дзейная старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла расказвае гісторыю свайго жыцця і адказвае на сто пытанняў з нагоды 100-годдзя абвяшчэння БНР.

**Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 8. Укладальнік і рэдактар А.Я. Тарас. – Рыга: выданне ІБГіК, 2018. – 236 с.**




Восьмы выпуск «Запісаў ТАБГ» падзелены на пяць частак. Першая частка (35 старонак) прысвечана 100-годдзю з дня абвяшчэння БНР. У ёй два артыкулы і два інтэрв'ю, а таксама 9 фотаздымкаў і 2 карты. У другой частцы (25 ст., 3 артыкулы, 5 фотаздымкаў) крытычна разглядаюцца некаторыя пытанні тэорыі гістарыяграфіі і паліталогіі. Трэцяя частка на 97 старонках змяшчае 12 матэрыялаў, прысвечаных розным пытанням беларускай гісторыі ды сучаснасці. Тут 46 ілюстрацыяў, з іх 5 карт. Чацвёртая частка (29 ст., 4 ілюстрацыі) ўяўляе сабою справаздачы з чатырох паседжанняў Клубу інтэлектуалаў. На змест пятай часткі паказвае яе назоў: канферэнцыі, прэзентацыі, юбілеі. У ёй 43 старонкі і 47 фотаздымкаў.




**Лапацін Генадзь. «К каждаму разгавору прыказка ё...» З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі. Матэрыялы да фразеалагічна-парэміялагічнага слоўніка асобы. Варвара Аляксандраўна Грэцкая. Запісы 2005–2012 гг. Частка 1. На правах рукапісу. – Гомель, 2018. 112 с.**




**Лапацін Генадзь. «К каждаму разгавору прыказка ё...» З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі. Матэрыялы да фразеалагічна-парэміялагічнага слоўніка асобы. Варвара Аляксандраўна Грэцкая. Запісы 2005–2012 гг. Частка 2. На правах рукапісу. – Гомель, 2018. 116 с.**

Гэтая кніга ўнікальная двойчы. Па-першае, упершыню ў фразеалагічна-парэміялагічнай практыцы створаны фразеалагічна-парэміялагічны слоўнік асобы, якой з'яўляецца былая жыхарка пасёлка Амяльное Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці Варвара Аляксандраўна Грэцкая. І, па-другое, гэта фразеалагічна-парэміялагічная карціна сусвету ва ўяўленнях беларусаў, увасобленая ў жыцці адной вёскі. Кніга будзе карысная для ўсіх, хто цікавіцца беларускай народнай культурай.




**Мальдзіс Адам. Ад Скарыны і Фёдарава – у ХХІ стагоддзе: зборнік эсэ. Прадм. А. Карлюкевіча, паслясл. Л. Анцух. – Мінск: Чатыры чвэрці, 2018. – 208 с.**

Зборнік складаецца з артыкулаў-эсэ, прысвечаных развіццю беларускага пісьменства, рукапіснага і друкаванага, якое пачалося з прыняццем хрысціянства ў Полацкім і Тураўскім княствах, паспяхова працягвалася ўжо ў друкаваным выглядзе ў Вялікім Княстве Літоўскім, а затым – у Расійскай імперыі і Савецкім Саюзе і дасягнула свайго апагею з набыццём Беларуссю незалежнасці. Развіццю мастацкай і навуковай літаратуры, далучэнню да біблейскага Слова Божага садзейнічалі выдатныя сыны і дочкі зямлі беларускай, сумежнай з Усходам і Захадам Еўразійскага кантынента. Выданне разлічана на ўсіх зацікаўленых у пазнанні сваіх каранёў і гісторыі Айчыны.




**Мельнікаў Андрэй. Васіль Быкаў: Доўгая дарога да праўды. – Мінск: «Харвест», 2017. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Васіль Быкаў (1924–2003) – самы вядомы ў свеце беларускі пісьменнік XX стагоддзя. Франтавік, Герой Сацыялістычнай Працы, адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронта «Адраджэнне». Вядомасць атрымаў дзякуючы сваім ваенным аповесцям.




**Вашкевіч Андрэй. Адам Станкевіч: Прадаўжальнік справы Скарыны і Багушэвіча. – Мінск: «Харвест», 2017. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Адам Станкевіч (1892–1949) – адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і беларускай друкарні імя Ф. Скарыны, кіраўнік Таварыства беларускай школы, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, рэдактар і выдавец часопіса «Хрысціянская думка», шырока вядомы публіцыст і гісторык. Гэта славуты дзеяч нацыянальнага ўзроўня.




**Голденков, Михаил. Кровавый потоп. История Отечественной войны Беларуси 1654–1667 годов Михаил Голденков. – Минск: УП «Энциклопедикс» 2018. – 308 с., ил.**

Кніга апісвае трагічную для Беларусі вайну 1654–1667 гадоў як з пункту гледжання сучаснікаў, гістарычных дакументаў, гэтак і з пазіцыяў ваеннай навукі таго перыяду. Кніга руйнуе стэрэатыпы і міфы пра гэту вайну, навязаныя за гады царызму і савецкага перыяду, калі праўдзівы сэнс і ход вайны або замоўчваўся, або скажаўся. Вялікая колькасць ілюстрацыяў і картаў робіць матэрыял цікавым і вобразным.




**Тухта Валерый. У бляску і цяні салдацкіх крыжоў: Георгіеўскія кавалеры Лепельшчыны. – Мінск: Медысонт, 2017. – 40 с. – (Бібліятэка альманаха «Лепельшчына»).**

У кнізе апавядаецца пра жыццёвы шлях лепяльчаніна Дамініка Канопку (1886–1975), удзельніка Першай сусветнай вайны, поўнага Георгіеўскага кавалера. На падставе архіўных крыніцаў і краязнаўчых даследаванняў даюцца звесткі пра ўзнагароджанне яго Георгіеўскімі крыжамі. Падаюцца звесткі пра лепяльчанаў, узнагароджаных Георгіеўскімі крыжамі розных ступеняў на франтах той напаўзабытай вайны. Кніга багата ілюстравана фотаздымкамі.




**Барыс Сымон. Каляндар гісторыі Беларусі: даведнік. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 320 с. [16 л.] іл.**

Гэта кніга ўяўляе сабой кароткую гісторыю Беларусі, якая распісана па датах. Кніга падзелена на 12 частак па назве месяцаў. У кожным месяцы на кожны дзень даюцца даты нарадзінаў (а калі іх няма, дык дата смерці) вядомых асобаў (дзяржаўных, ваенных і палітычных дзеячаў, мастакоў, пісьменнікаў, народных артыстаў, акадэмікаў і некаторых вучоных) і важнейшых падзеяў з гісторыі Беларусі. Яна была складзена на заказ вядомага калекцыянера Анатоля Белага ў сакавіку 2009 г. Значная частка матэрыялаў увайшла ў каляндар «Люстра дзён», які змешчаны на сайце Анатоля Белага Spadchyna.net у інтэрнэце.




**Юрша Василий. Ошмянский край: Том 3. Гербовник: А–Г. – Минск: Змицер Колас, 2018. – 772 с.**

Працяг шматтомнага выдання пад агульнай назвай «Ашмянскі край». Трэці том утрымлівае ўнікальнае рэгіянальнае генеалагічнае даследаванне, што абапіраецца на глыбокі і крыжаваны аналіз роднасных сувязяў па метрычнай базе (з XVII стагоддзя), судовых дакументах, парафіяльных і пасямейных спісах, рэвізскіх казках, вывадных справах, апублікаваных гербоўніках і іншых крыніцах. Утрымлівае звесткі пра шляхецкія (дваранскія) роды на літары А, Б, В і часткова Г, якія мелі дачыненне да Ашмянскага павета.




**Сцяшковіч Таццяна. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Рэд. і прадм. Н. Кахан. – 2-е выд., выпраўленае. – Смаленск: Інбелкульт, 2018. – 400 с.**

Слоўнік раскрывае лексічнае і фразеалагічнае багацце Гродзеншчыны. Першае выданне было надрукавана ў 1983 г. накладам 600 асобнікаў. Адна з каштоўнасцяў працы – у дакладным адлюстраванні фанетычных, марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцяў мясцовага маўлення. У папраўленым выданні галоўным заданнем было запісаць ілюстрацыйны матэрыял спрошчана, набліжана да арфаграфічнага пісьма. Праца разлічаная не толькі на мовазнаўцаў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, kniharnia.by і halijafy.by.

## ■ ІМПРЭЗЫ

# Леаніда Маракова ўспомнілі ў Мінску

12 красавіка ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ўшанавалі памяць пісьменніка, гісторыка, даследчыка рэпрэсіяў савецкіх уладаў на Беларусі Леаніда Маракова. 15 красавіка яму споўнілася б 60 гадоў, аднак ужо больш за год яго, на жаль, няма з намі. Сустрэчу зладзіў Саюз беларускіх пісьменнікаў.



Вядучым вечара выступіў старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч, які пазнаёміўся з Леанідам у пачатку 1990-х у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», пераклаў на беларускую мову і надрукаваў першае мастацкае апавяданне спадара Маракова. Больш за 30 выдадзеных тамоў і больш за 20 000 адкрытых і апісаных персаналіяў ахвяраў і катаў сталінскіх рэпрэсіяў – плён працы спадара Леаніда ўражвае.

«Ён адзін зрабіў тое, што пад сілу хіба што цэламу навукова-даследчаму інстытуту», – падкрэсліваў у сваім выступе кожны, хто ведаў пісьменніка, супрацоўнічаў з ім. Успаміналі таксама і неўтаймоўны характар, энергічнасць Леаніда, яго імкненне ўвесь час кудысьці спяшацца, працаваць за камп'ютарам содні напралёт – відаць, менавіта дзякуючы гэтаму Маракоў так шмат паспеў.

Акрамя Барыса Пятровіча, падзяліліся сваімі ўспамінамі пра пісьменніка і даследчыка ягоныя калегі, тыя, хто з ім супрацоўнічалі і падтрымлівалі яго ў розны час: Уладзімір Арлоў, Ганна Запартыка, Міхась Скобла, Віктар Шніп.

**Віка Трэнас, для lit-bel.org**

## ■ АЎТОГРАФ

# «Суладдзе вершаў і малюнкаў...»

*(Пачатак на стар. 1)*

Ды і астатнія глядзяць даволі. А калі дадаць сюды тэлегледачоў, то увогуле лічба атрымаецца вялікай. Як аўтару мне прыемна, столькі чытачоў у маіх кніг, якіх выдадзена больш за дваццаць, не будзе ніколі, бо іх наклады невялікія. Так што цяпер фільмы таму, хто цікавіцца, можна паглядзець на сваім камп'ютары.

**– Наколькі цікавыя дакументальныя фільмы сённяшнім гледачам?**

– На жаль, беларускі глядач пераважна не прывучаны глядзець беларускае дакументальнае кіно. Ды і дзе? Бывалі перыяды, калі мы ладзілі прэм'еры ў кінатэатры «Цэнтральны». Цяпер спрабуем адрадзіць такую форму. Але з таго вопыту, калі на сустрэчах, акрамя выступлення як пісьменнік, я паказваў яшчэ і фільмы, раблю выснову, што гледачы з вялікай ахвотаю глядзяць дакументальнае кіно. Акром пазнавальнага, кіно адметнае тым, што яго ўздзеянне сінтэтычнае – і выява, і слова, і музыка. Таму гэта прыцягвае і забірае да сябе ў палон.

**– Вы шмат ездзіце па Беларусі, часты госць на творчых сустрэчах, літаратурных імпрэзах, семінарах? Якія пытанні найчасцей задаюць Вам падчас такіх сустрэчаў?**

– Пытаюцца, чаму ў мяне шмат фільмаў (ды і вершаў, і тэкстаў) на гістарычную тэму? Сабе я ўжо даўно адказаў на пытанне, для чаго нам трэба ведаць падзеі і постаці даўніны, і гэтым заўсёды дзялюся са сваімі юнымі сябрамі на творчых сустрэчах. Гісторыю нашай Беларусі трэба ведаць, каб разумець і ўсведамляць, што мы не першыя на сваёй зямлі і не апошнія, што тут стагоддзямі жылі людзі, кахалі і нараджалі дзяцей, будавалі жытло, храмы і замкі, працавалі, ваявалі, у змаганні стваралі і мацавалі беларускую дзяржаву. Веданне мінуўшчыны, адчуванне непарыўнай повязі часоў і падзей, памкненняў людскіх дае чалавеку трывалы грунт яго існавання на зямлі, дазваляе ясна глядзець у будучыню.

Калі нешта асабістае, то нярэдка пытаюцца, колькі ў мяне дзяцей? Трое, адказваю. І ўсе ад адной жонкі? Чамусьці існуе меркаванне, што творчыя людзі, асабліва звязаныя з кіно, зазвычай не адзін раз жанатыя. Але я ж не вінаваты, што аднალюб.

**– Нядаўна выйшла Вашая «Графічная кніга паэта», у якой сабраныя вершы і графічныя кампазіцыі. Цікава, як прыйшла ідэя стварэння гэтай кнігі?**

– Па першай адукацыі я архітэктар, і таму звычка рукі маляваць засталася. Графічныя кампазіцыі ў мяне з'яўляюцца свядома-падсвядома. Сядзіш, думаеш аб нечым, ці размову вядзеш неабавязковую, ці слухаеш непатрэбнае табе (напалову адсутнічаеш у рэальнай прасторы), а рука самахоць неўсвядомлена крэсліць на аркушыку паперы лініі, плямкі, штрыхі, зводзіць іх у кампазіцыю. Яны ніколі не задумваліся наперад – проста сама рука пачынае весці нейкую адмысловую лінію – адну, другую. Потым, на пэўнай стадыі, глядзіш, натуральна, што атрымліваецца, нешта даводзіш ужо больш асэнсавана, каб кампазіцыя выглядала па-мастацку завершанай, гарманічнай, прыгожай – на тое яна і кампазіцыя.

Вось і назбіралася ў мяне такіх малюнкаў каля трох соцень. Аднойчы і падумалася – а гэта ж можа быць адметная кніга, дзе поруч з вершамі будуць і малюнкі, прычым усё будзе суіснаваць у суладдзі. Трэба заўважыць, што задуманае я заўсёды імкнуся ажыццявіць, няхай і не ў той жа момант. Так увасобілася ў рэальнасць і «Графічная кніга паэта».

**– Над чым Вы працуеце цяпер, што ў Вашых найбліжэйшых творчых планах?**

– Так склалася, што ў мяне цяпер больш выдавецкі перыяд. Восенню мінулага года выдаў доўга рыхтаваную кнігу ўспамінаў свайго бацькі, ветэрана Другой сусветнай вайны, у працоўным жыцці настаўніка Вікенція Мароза «Пeражытае-незабытае». Атрымалася выдатная кніга, якая выклікала розгалас, бо напісана шчыра, пранікнёна. Да таго ж добры падарунак чалавеку, якому 93 гады. Сёлета, на пачатку года, выйшла «Графічная кніга паэта». А цяпер у выдавецтве трохтомавік выбраных твораў – паэзія, проза, эсэ. Кожны том, што можа і не характэрна для выбранага, мае сваю назву. Гэта яшчэ не падрахунак творчага шляху (для гэтага ёсць збор твораў), але вельмі чаканае для мяне выданне. Кожны з калег-літаратараў можа ўявіць, як я прагну хутчэй патрымаць у руках важкія тры тамы сваіх твораў.

Тады яшчэ з большым энтузіязмам вярнуся да сваіх творчых планаў. Буду працягваць пісаць аповеды жыцця, як вызначыў свой жанр у прозе. А сцэнары дакументальных фільмаў, якія называю для сябе кінаэсэ, і не перарываюцца. Ёсць задумкі некалькіх цыклаў вершаў. І задума вялікага празаічнага твору своеасаблівага жанру, аб якім думаю даўно і які напішацца, калі Гасподзь дасць.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Леанід Дранько-Майсюк. «...Натуральны, як лінія небасхілу»: архіўная аповесць пра Максіма Танка. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 97). – 148 с.**

Архіўная аповесць, вядомая сталым чытачам «Дзеяслова», выдадзеная ў серыі «Кнігарня пісьменніка» ў выдавецтве «Кнігазбор» і прымеркаваная да 105-гадовага юбілея Максіма Танка. Гэта твор пра беларускага песняра, пра той час (першая палова 1930-х), калі малады Максім Танк жыў у Вільні, супрацоўнічаў з падпольнымі структурамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. «...Натуральны, як лінія небасхілу» – вынік шматгадовай працы Леаніда Дранько-Майсюка ў віленскіх і мінскіх архівах.




**Віктар Карамазаў. Пад крыжам. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 100). – 144 с.**

У Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшаў юбілейны соты выпуск кніжнай серыі. Новая кніга Віктара Карамазава «Пад крыжам» асэнсоўвае тэму мастацтва. У апавяданнях і навелах «Ван Гог», «Макі», «Бабіна лета» – эпізоды з жыцця мастака як такога, апісанне ўнікальнага мастацкага адчування свету, вылоўлівання ўражанняў з навакольнага свету, якія маглі б стаць асновай для кампазіцыі карціны. Асноўнае ж месца ў кнізе займае аповесць «Зямля Фердынанда», вядомая чытачам «Дзеяслова» – біяграфія найвядомейшага беларускага і польскага мастака Фердынанда Рушчыца.




**Вікенцій Мароз. Перажытае-незабытае: успаміны, аповеды, краязнаўства. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 324 с.**

У кнігу Вікенція Мароза, сябра Саюза беларускай моладзі, жаўнера Другой арміі Войска Польскага ў часе Другой сусветнай, настаўніка беларускай мовы і літаратуры ў мірным жыцці, увайшлі згадкі пра яго насычанае на падзеі жыццё. У прачулым «Слове пра бацьку», якое адкрывае гэтае выданне, пісьменнік Уладзімір Мароз гэтак характарызуе кнігу свайго бацькі: «...гэта не толькі экзістэнцыя асабістага жыцця, але і яскравы адбітак часу, часу складанага і трагічнага, які ўвабраў і жыццё “за польскім часам”, і першыя саветы, і жыццё пад акупацыяй, і вайну, якой аддадзены два з паловай гады, і пасляваенны перыяд з усімі яго калізіямі». Дыхтоўна выдадзеная, кніга будзе цікавай усім не абыякавым да гісторыі Беларусі ХХ стагоддзя.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга ноша
№ 49
красавік, 2018
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 49 24.05.2018.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com